● КАНФЛІКТНАЯ СІТУАЦЫЯ

# ЛІСТ У АДКАЗ

У газеце «Добры вечар» ад 18 сакавіка гэтага года быў апублікаваны «Адкрыты ліст», які падпісалі вельмі паважаныя і знакамітыя дзеячы культуры Беларусі. Яны выказалі занепакоенасць канфліктам паміж Саюзам мастакоў рэспублікі і паэтам Алегам Бембелем наконт дома-майстэрні яго бацькі — народнага мастака Беларусі Андрэя Бембеля, дзе ён працаваў.

Сутнасць сітуацыі ў тым, што Алег Андрэевіч не жадае пакінуць майстэрню бацькі і перасяліцца ў звычайную кватэру, каб даць магчымасць наладзіць у гэтым доме Музей сучаснай беларускай скульптуры.

Не вельмі прыемна выносіць смецце з хаты, публічна раскрываць усе сямейныя «нягоды» вядомых асоб, але ўжо калі з пасрэднай судовай справы «лепяць» палітычны працэс, называючы яго «ганеннямі на Алега Бембеля, звязанымі з яго творчай і грамадскай дзейнасцю», «спробай выгнаць яго з бацькавай хаты», выкарыстаўшы пры гэтым сродкі масавай інфармацыі, то мы павінны, як кажуць, назваць усё сваімі імёнамі.

Перш за ўсё ўдакладнім. Грамадзянскага іску скульптара Буралкіна супраць паэта Бембеля ўвогуле не існуе. Суд ужо працяглы час робіць спробы давесці да ладу цэлы комплекс судовых іскаў, якія распавядаюць захапляльную гісторыю атрымання кватэр сям'ёй Бембеляў.

А па-другое, майстэрня па вуліцы Я. Коласа, 29а паважанага Андрэя Бембеля не з'яўляецца для яго сына Алега (38-га года нараджэння) «бацькавай хатай», у якой ён нарадзіўся і пражыў амаль усё жыццё», бо пабудавана была ў 1971 годзе.

Але ж усё па чарзе.

Майстэрня, пра якую ідзе спрэчка, была дадзена Андрэю Бембелю ў пажыццёвае карыстанне замест знесенай майстэрні па вуліцы Беламорскай, 42. Адначасова ўсім членам яго сям'і былі выдзелены асобныя кватэры, у тым ліку і сям'і сына Алега, бо жылым памяшканнем знесеная майстэрня (дарэчы) не з'яўлялася.

Як выключэнне, у 1980 годзе гарвыканкам дазволіў Андрэю Бембелю прапісацца ў майстэрні па вуліцы Я. Коласа, 29а, бо ён там фактычна жыў, а яго кватэра была пераафармлена на сына Алега з яго ўжо другой сям'ёй.

У «бацькавай хаце» Алег Андрэевіч з'явіўся і прапісаўся толькі ў 1986 годзе, калі развітаўся з другой жонкай і пакінуў ёй кватэру, як і першай.

У тым жа годзе памёр Андрэй Ануфрыевіч. Яго жонцы далі кватэру. Была спроба выселіць праз суд сына, бо пры прапісцы ў майстэрні было зроблена парушэнне: Алега прапісалі ў нежылы дом, пасяліўся ён у службовым памяшканні майстэрні. Таму Алег Андрэевіч нават не быў унесены ў дамовую кнігу. Такім чынам раённы суд спрабаваў выправіць памылку, але Вярхоўны Суд рашэнне яго адмяніў.

У 1989 годзе было вырашана наладзіць у майстэрні Музей беларускай сучаснай скульптуры. Саюз мастакоў выкупіў для гэтага яе ў політэхнічнага інстытута, у якога майстэрня была на балансе, і ўзяў на свой баланс. Для Алега Андрэевіча Саюз мастакоў купіў двухпакаёвую кааператыўную кватэру, паклапаціўся і аб яго трэцяй жонцы, адарыўшы і яе аднапакаёвай. Дарэчы, Бембель-сын гэтаму не пярэчыў, нават напісаў распіску аб згодзе перасяліцца ў купленую для яго кватэру. Але засяліў туды... дачку Таццяну з сям'ёй, якая на той момант была забяспечана жыллём. Таму, што гэта было зроблена да ўсяго ў не ўстаноўленым законам парадку, народны суд Савецкага раёна і кааператыў № 518, якому належала кватэра, прымусіў сям'ю Таццяны пакінуць бацькаву двухпакаёўку, пасля чаго і яна пераехала ў майстэрню дзеда.

Вось амаль што ўвесь сказ пра «ганенні» на паэта. Ці не праўда, нявартая знакамітага імя гісторыя? Нават сорамна за тых, хто падпісаў «Адкрыты ліст». Кідаецца ў вочы, што няма сярод іх паплечнікаў і вучняў народнага мастака, затое ёсць яны пад зваротам Саюза мастакоў у суд. Упэўнены, не знаёмыя аўтары ліста з даволі прымітыўнай сутнасцю справы. Але ж, мяркуем, камусьці такое фабрыкаванне выгадна. А час цяперашні пасуе гэтаму.

Ужо год ідзе падрыхтоўка да стварэння памянёнага музея. Плануецца рэстаўрацыя майстэрні, прыстасаванне яе пад будучыя экспазіцыі. Будзе захаваны і мемарыяльны пакой народнага мастака Беларусі Андрэя Бембеля. Яго сыну шмат разоў прапанавалі дапамагчы ў зборы матэрыялаў для гэтага, але ён не ўзяўся за пачэсную справу, нават, можна сказаць, перашкаджаў ёй. Музей, можна лічыць, працуе з красавіка 1991 года. Загадчыца музея І. Мятліцкая і супрацоўніца музея — дачка А. А. Бембеля К. А. Бембель займаюцца падрыхтоўкай матэрыялаў, картатэкі, архіўных даных для будучай работы музея.

Спадзяёмся, цяпер добра відаць, што ніколі не былі абыдзены ўвагай і клопатам ніводзін, нават часовы, член сям'і Бембеляў. Хто можа пахваліцца такой раскошай у забеспячэнні кватэрамі? Шмат хто з таленавітых мастакоў, скульптараў жыве ў найцяжэйшых жыллёвых умовах, не кажучы пра іншых жыхароў сталіцы.

Дык хто каламуціць ваду, хварэючы толькі за ўласнае? За высокімі словамі «Адкрытага ліста» — не памяць і боль пра бацькоўскае, а яўнае спекуляванне ім.

**А. АРЦІМОВІЧ**, старшыня мастацка-скульптурнага савета, вучань і паплечнік Андрэя Бембеля;
**А. БАРАЗЕНІКАЎ**, старшыня бюро секцыі скульптуры;
**М. БАКУМЕНКА**, скульптар;
**Г. БУРАЛКІН**, старшыня праўлення СМ Беларусі;
**Г. ГАРАВАЯ**, скульптар;
**В. ЗАНКОВІЧ**, скульптар, лаўрэат Ленінскай прэміі, старшыня мемарыяльнай камісіі па ўшанаванні памяці народнага мастака Беларусі А. А. Бембеля;
**І. МІСКО**, скульптар, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі;
**У. СТАЛЬМАШОНАК**, народны мастак Беларусі і іншыя (усяго 25 подпісаў).

● ПОРТРЕТ НА ФОНЕ ИСТОРИИ

# «ПЕРВЫЙ ДИРЕКТОР»

**Так называли Иосифа Бенциановича Симановского, 100-летнюю годовщину со дня рождения которого 24 апреля 1992 года отметили сотрудники Государственной библиотеки Республики Беларусь.**

Сын бобруйского ремесленника получил хорошее гимназическое, а потом и высшее образование. Иосиф учился в Швейцарии — в 1914 г. окончил Бернский университет, потом работал в библиотеках. С 1918 по 1921 годы был заведующим Бобруйской городской библиотеки, сделав немало для пополнения ее книжного фонда, организации библиотечного дела в уездном городе.

Из Бобруйска Симановского перевели на работу в Минск. Когда правительство приняло решение о создании республиканской библиотеки, и встал вопрос о ее директоре, все сошлись на кандидатуре Иосифа Бенциановича. Доводы в его пользу были более чем убедительные — хорошо образованный человек, деловой, энергичный, знает библиотечное дело, получил отличное библиотечное образование, не один год успешно трудится, знает, с чего надо начинать работу в новой библиотеке.

...День 15 сентября 1922 года был самым памятным, счастливым в долгой жизни Симановского (Иосиф Бенцианович скончался в 75-летнем возрасте 8 октября 1967 года). Ему довелось принять участие в торжественном открытии первой государственной библиотеки в Беларуси, стать первым директором. Он знал, что будет нелегко, но работы не боялся. Еще не было у республиканской библиотеки своего здания (нынешнее здание библиотеки на Красноармейской улице было открыто в 1934 г.), а Симановский со своими единомышленниками стал собирать для только что организованного отдела белорусской литературы и библиографии ценные и редкие издания: изданную в 1517-19 гг. в Праге «Библию» Ф. Скорины, «Евангелие утешительное» И. Федорова и П. Мстиславца, «Азбуку» В. Ф. Бурцева, «Арифметику» Л. Магницкого, «Грамматику» М. Смотрицкого, некоторые другие книги. Именно Симановский стал инициатором сохранения в отделе личных собраний книг Е. Ф. Карского, Н. Я. Грота, В. И. Пичеты, Н. А. Янчука, других известных белорусских ученых, которые издавались с начала 19-го века, произведений В. Дунина-Марцинкевича, Ф. Богушевича, М. Богдановича, первых изданий Янки Купалы и Якуба Коласа, других белорусских поэтов, прозаиков.

Сегодня можно, не боясь преувеличения, сказать, что И. Б. Симановский (он был директором Государственной библиотеки в 1922—1937 и в 1944—1961 гг.) сделал все, что было в его силах, чтобы фонды республиканской библиотеки возрастали год от года: теперь в Государственной библиотеке Республики Беларусь на хранении находится семь миллионов книг, брошюр, журналов, газет.

Многолетняя плодотворная работа Симановского на посту директора еще в 30-е годы была отмечена высшей белорусской наградой — в числе первых Иосифа Бенциановича наградили орденом Трудового Красного Знамени БССР. Позже он был удостоен и общесоюзного ордена Трудового Красного Знамени.

Биография Симановского богата примерами, которые свидетельствуют о его организаторских способностях и неутомимом поиске. Например, с 1937 года ему довелось немало потрудиться, чтобы создать научную медицинскую библиотеку БССР, которая была открыта в 1940 г. Заложенные Иосифом Бенциановичем основы и принципы ее деятельности и сегодня широко используются в работе Республиканской научно-медицинской библиотеки Минздрава Республики Беларусь.

После освобождения Минска от гитлеровских фашистов в 1944 году Симановский не только работал директором Государственной библиотеки БССР им. В. И. Ленина, но вел преподавательскую работу в Минском педагогическом институте им. М. Горького, выпустил несколько работ по теории и методике библиотековедения, перевел произведения Г. Гейне и А. Мицкевича на белорусский язык. За плодотворную многолетнюю работу в 1957 году Симановскому Иосифу Бенциановичу было присвоено почетное звание «Заслуженный деятель культуры БССР».

И. Б. Симановский оставил о себе добрую память у всех, кто с ним работал, кто его знал. Он сделал многое для сохранения книжного богатства, культурного наследия белорусского народа. И пусть эта заметка будет данью уважения человеку, чья столетняя годовщина со дня рождения вписана в календарь истории.

**Николай СОЛОВЬЕВ.**

● ФАКТ

# ВИДЫ НА «ОСТАНКИНО»

**СЛУХИ о том, что в самое ближайшее время в Беларуси не будет транслироваться первый канал телестудии «Останкино», оказывается, вовсе не беспочвенны. Во всяком случае, судьба первой программы Центрального телевидения пока неясна. Руководители телерадиокомпаний, радиовещательных и телевизионных служб Беларуси, Украины, России, Туркменистана и Казахстана на состоявшемся в Минске рабочем совещании пока не могут ответить на вопрос: сохранится ли единое информационное пространство? Будет ли первая программа телестудии «Останкино» достоянием владельцев «голубых экранов» всех стран СНГ? И если да, то как в сложившейся обстановке будут решаться оргвопросы, по каким критериям будут производиться финансовые расчеты?**

**Как сказал корреспонденту БЕЛТА председатель Государственного комитета по телевидению и радиовещанию Республики Беларусь Александр Столяров, подписание каких-либо документов на этой встрече не предусматривалось. Однако мы должны были поставить точки над «і». Как известно, в самое ближайшее время в столице Казахстана Алма-Ате состоится встреча руководителей информационных служб бывших республик бывшего Советского Союза, где и будет решена судьба первого канала телестудии «Останкино». Потому крайне необходимо определиться уже сегодня, узнать позицию друг друга по данному вопросу. А. Столяров отметил, что инициатива казахских коллег — создать на базе первого канала телевидения единый межгосударственный информационный канал — была одобрена участниками совещания. Однако сказать, что она будет принята на совещании в Алма-Ате, пока очень трудно.**

СПОНСАР — УНІВЕРМАГ «БЕЛАРУСЬ»



ФОТАКОНКУРС «ДВ» — ЯК САМО ЖЫЦЦЁ...

СВЯТА.

Аляксандр КУШНЕР.

● ФАКТ И КОММЕНТАРИЙ

# ФЕСТИВАЛЬ НАДЕЖД

**Апрель порадовал нас очередным парадом фестивалей. Причем, количество не повлияло на качество — каждый из них внес в культурную жизнь республики живую струю. Но самое главное, что, пожалуй, впервые такое огромное внимание было уделено только начинающим свой творческий путь юным дарованиям и молодым деятелям искусства. Особенно в этом плане отличился известный своим новаторством фестиваль «Минская весна-92», получивший в этом году еще одно название — «Новые имена».**

**Одним из самых ярких событий фестиваля стали выступления юных «звезд» — четырнадцатилетнего виолончелиста из Минского музыкального лицея при Белгосконсерватории Коли Гималетдинова и его ровесницы из Харькова пианистки Лены Колесниченко. Они являются стипендиатами Международного российского фонда культуры, награждены золотыми медалями Папы Римского. Открытием для белорусского слушателя стал ученик седьмого класса Центральной музыкальной школы при Московской консерватории Алексей Набиулин, выступивший с сольным фортепианным концертом.**

**Настоящим украшением «Минской весны» стал, безусловно, и гала-концерт лауреатов Первого международного фестиваля хореографического искусства «Я люблю балет», проходившего в эти же дни в Минске. Отдельной программой были представлены победители недавно завершившегося в Москве первого Международного конкурса юных пианистов имени Ф. Шопена. Целое созвездие новых имен представили Минский музыкальный лицей и Белгосконсерватория, при которой он создан. Интересно показали себя молодые талантливые вокалисты Белорусского ГАБТа Ирена Журко и Григорий Полищук.**

**Много было в те дни и встреч с уже известными исполнителями и зрелыми мастерами. По традиции в рамках «Минской весны» состоялось немало премьер. Свои новые камерно-инструментальные произведения предложили белорусские композиторы и их коллеги из Санкт-Петербурга. В несколько неожиданном для себя качестве предстал перед слушателями Василий Раинчик, продемонстрировавший необычный творческий эксперимент с электронным «Симфоническим оркестром». Как всегда, на фестиваль приехало много зарубежных музыкантов, которые плодотворно сотрудничают с белорусскими мастерами сцены.**

**Виктор КУКЛОВ, корр. БЕЛТА.**

● РОЗНЫЯ РОЗНАСЦІ

### ЯК ЗМАГАЦЦА З ТУМАНАМ

**РЫМ. У Расіі знойдзены эфектыўны метад барацьбы з туманамі, які можа быць з поспехам выкарыстаны авіяслужбамі Італіі і іншых краін. Да такога вываду прыйшлі ўдзельнікі навуковага сімпозіума, які праходзіў у Турыне, арганізаванага італьянскай асацыяцыяй «Тэхнагра» сумесна з сусветнай метэаралагічнай арганізацыяй.**

**Дырэктар Маскоўскага інстытута праблем клімату і экалогіі Зямлі прафесар Юрый Ізраэль расказаў аб вопыце, набытым у краінах СНД па барацьбе з туманамі.**

### РАСЦЕ НАСЕЛЬНІЦТВА

**АТАВА. 27 296 859 чалавек — такім было насельніцтва Канады 4 чэрвеня мінулага года, калі праводзіўся ўсеагульны перапіс. Статыстычнае бюро апублікавала яго першыя вынікі, якія паказваюць, што за апошнія пяць гадоў колькасць жыхароў гэтай краіны павялічылася на 7,9 працэнта, а з 1951 года — падвоілася.**

### ПРАЕКТ «АРХОН»

**УЛАН-БАТАР. Урад Манголіі зацвердзіў праект «Архон», паведамляе газета «Ардын Эрх». Гэта заметка магла б застацца незаўважанай, калі б размова ў ёй не ішла аб старажытнай мангольскай сталіцы Хархарыне, або, па іншых крыніцах, славутым у свой час Каракаруме.**

**Праграма рэстаўрацыйных і экалагічных работ, распрацаваная спецыялістамі Міністэрства нацыянальнага развіцця, Камітэта па развіццю культуры і мастацтва пры мангольскім урадзе і камісіі па будаўніцтву і горадабудаўніцтву, прадугледжвае цэлы комплекс работ, накіраваных на аднаўленне гістарычных славутасцей калісьці ажыўленага цэнтра легендарнага караваннага шляху старажытнасці. Яна разлічана на перыяд да 2005 года, пасля чаго вядомая цяпер толькі даследчыкам назва Хархарына ўвойдзе ва ўсе турыстычныя карты свету.**

**Менавіта такую мэту мае на ўвазе праект, які атрымаў імя ракі Архон, што працякае тут, аднаго з асноўных прытокаў Селенгі, які ўпадае, у сваю чаргу, у Байкал.**

**Рашэннем урада ўтвораны спецыяльны цэнтр па рэалізацыі прынятай праграмы адраджэння Хархарына-Каракарума.**

# ПРА ТЭЛЕФОН

рымліваецца так, што нашы заканадаўчыя органы прымаюць пастановы аб ільготах, а за чый кошт гэта павінна рабіцца?

**— Ва ўсім свеце за кошт дзяржавы або таго, хто іх устанавіў...**

— Я магу сказаць, што на гэты год нам далі 430 тысяч рублёў у лік пагашэння затрат на ўстаноўку тэлефонаў інвалідам і ўдзельнікам вайны, а мы за першы квартал ужо затрацілі 380 тысяч. І больш нам не абяцаюць. Мы разумеем, што робім добрую справу, але хто будзе кампенсаваць нам новыя затраты?

*НАША ДАВЕДКА. На сённяшні дзень згодна з «Правіламі карыстання гарадской тэлефоннай сувяззю» дзевяць катэгорый грамадзян маюць ільготы па тэлефоннай сувязі, але калі ўсе пункты дэталёва расшыфраваць, асабліва дзевяты, то ўсяго атрымліваецца іх каля дваццаці васьмі.*

**— Іван Браніслававіч, вы не раз упаміналі пра грошы, дакладней, пра іх недахоп. Ці азначае гэта, што тарыфы неўзабаве зноў будуць пераглядацца?**

— Ну, калі мы загаварылі пра тарыфы, то, на мой погляд, мэтазгодна было б не павышаць установачную плату ў далейшым, а павялічыць абаненцкую. Ва ўсіх сталіцах былога Саюза мінімальна яна складае 20—30 рублёў у месяц, а ёсць нават па 70. Я не хачу, каб з нашых людзей бралі шмат, але 30 рублёў для Мінска за карыстанне тэлефонам — самая аптымальная плата. На сённяшні дзень, па сённяшніх цэнах. Нам не патрэбны лішнія грошы, але тыя, якія неабходны для развіцця і эксплуатацыі тэлефоннай сеткі, трэба браць.

**— У свой час вельмі жвава абмяркоўвалася тэма пагадзіннай платы за кожны тэлефонны званок.**

— Так. Гэтую работу мы праводзім. На сённяшні дзень такім абсталяваннем аснашчана 220 тысяч нумароў. Работа працягваецца, і, я лічу, што такі падыход правільны. Так практыкуецца ва ўсім свеце, акрамя нас ды пары афрыканскіх краін. Калі будзе пагадзінны ўлік, ніхто не будзе гаварыць па 20—30 мінут, а лаканічна і дакладна. Зрэшты, зменшыцца і нагрузка на тэлефонныя станцыі, працаваць будзе дазваніцца, калі кожны будзе ведаць, што гэта «бягуць» яго грошы.

**— Дык калі ж нам чакаць гэтага новаўвядзення?**

— Думаю, у наступным годзе.

**— А цяпер пытанні нашых чытачоў. Мы паспрабавалі іх згрупаваць — так, напэўна, будзе працаваць адказваць. Калі сфармуляваць іх сутнасць, то атрымліваецца прыкладна так: жыў у адным раёне горада — меў тэлефон, памяняў кватэру, дзе раней таксама быў тэлефон, але ва ўстаноўцы чалавеку адмовілі...**

— Ну, тут можа быць шмат розных сітуацый, накшталт, ці быў гэты чалавек адказным кватэранаймальнікам, які быў тэлефон. І потым, у Правілах карыстання гарадской тэлефонай сувяззю даецца даволі падрабязнае тлумачэнне іх.

Напрыклад. Пры абмене кватэрамі або пераездзе грамадзян, якія з'яўляюцца абанентамі тэлефонных сетак, у тэлефанізаваную кватэру прадпрыемствы сувязі робяць перайменаванне тэлефона. Пры пераездзе ў тэлефанізаваную кватэру аднаго з членаў сям'і абанента тэлефон пераафармляецца на яго імя ў тым выпадку, калі ў доме адсутнічаюць незадаволеныя заявы пазачарговікоў. Словам, сітуацый вельмі многа, выпадкі розныя.

**— А вось калектыўнае пісьмо ад жыхароў дома № 2 па вуліцы Сталетава. Усе яны, дарэчы, маюць ільготы. Звярталіся гэтыя людзі і да начальніка Заводскага цэха, аднак яго адказ іх не задаволіў.**

— Што я магу адказаць? Толькі тое ж, што і начальнік Заводскага цэха: мы зможам задаволіць іх заявы толькі калі будзе ўведзена ў строй новая АТС на вуліцы Мендзялеева. Іншай магчымасці, на жаль, няма. Што ж датычыцца таго, што яны спасылаюцца на ўвод у мінулым годзе новай АТС у раёне Трактарнага завода, то яна не абслугоўвае раён іх пражывання.

**— Многіх хвалюе праблема тэлефанізацыі прыватнага сектара.**

— Безумоўна, тут многа пытанняў. Людзі стаяць на чарзе і з 60-х гадоў. Трэба сказаць, што гэтая праблема пачала вырашацца толькі ў 1985 годзе, і то толькі для асоб, якія маюць ільготы — інвалідаў і ўдзельнікаў вайны, іншых льготнікаў. У канцы мінулага года гарвыканкамам прынята рашэнне аб суцэльнай тэлефанізацыі прыватнага сектара. Гэта значыць, кожнага дома. Рашэнне ёсць, вызначаны выканаўцы: заказчыкі — мы, плацельшчык — фінансавае ўпраўленне Мінгарвыканкама.

**— І цэлы «букет» пытанняў па ўстаноўцы кватэрных тэлефонаў за 8 тысяч рублёў: ці не робіцца гэта за кошт, дакладней, у абход ільготнікаў і тых, хто стаіць у чарзе!**

— Зразумела. Хачу адказна ўсіх запэўніць: такія тэлефоны ўстанаўліваюцца толькі там, дзе задаволены ўсе заяўкі льготнікаў. Ніякіх выключэнняў і адступленняў мы не робім, нідзе ў абход чаргі льготнікаў ні за якія грошы тэлефонаў мы не ўстанаўліваем.

**— Шмат пытанняў па «спараных» тэлефонах...**

— Іх сёння ў горадзе працуе каля 90 тысяч. Гэта дазваляе пры наяўным недахопе ліній устанавіць тэлефон. Прычым, індывідуальны. Толькі па спаранай схеме. Таму, калі адзін размаўляе, у другога тэлефон маўчыць. Гэта значыць, трэба карыстацца сувяззю па чарзе. Сказаць, што робім дрэнна, калі «спарваем» тэлефоны, не магу. Таму што мы робім добра іншаму. Такім чынам, атрымліваецца 50×50.

Сёння, напрыклад, у прыватным сектары ставім толькі такія тэлефоны. Інваліды першай групы карыстаюцца — ніхто не скардзіцца, у асноўным скаргі ідуць ад тых, хто меў індывідуальны тэлефон і жыве ў шматпавярховых дамах. Трэба сказаць, што мы стараемся ўлічваць усё гэта, але, дарэчы, Правіламі не прадугледжваецца згода абанента, мы павінны толькі папярэдзіць яго за 10 дзён да «спарвання тэлефона». У кожным канкрэтным выпадку мы разбіраемся і вырашаем. І адзначу, што пры нармальных, чалавечых адносінах паміж людзьмі ніякіх праблем не ўзнікае. Скажу, што я прарабіў 25 гадоў у сувязі і ў мяне 10 гадоў быў спараны тэлефон — і ніякіх абсалютна праблем я не меў. Можа, калі ўвядзём пагадзінную плату, таксама менш нараканняў будзе.

**— У свой час у многіх мінчан з'явілася магчымасць мець тэлефон у нерабочы час...**

— Так, падобную работу мы правялі. Усталявалі літаральна на кожнай АТС апаратуру, якая пераключае тэлефоны, устанавілі і па гораду шмат такіх тэлефонаў, але ўся праблема заключаецца ў тым, што патрэбны свабодныя лініі. І вось часта атрымліваецца так, што ў новых мікрараёнах гэтая форма вельмі падышла б, але там да дамоў няма ліній. А ў цэнтры, дзе нямала і прадпрыемстваў, і ліній — няма жадаючых гэтым карыстацца.

Мы выкарыстоўваем і такую магчымасць, як устаноўку тэлефона аднабаковага дзеяння. Гэта значыць, даём нумар тэлефона-аўтамата. Ну няма свабодных нумароў на станцыі, што ж рабіць? Таксама — выхад са становішча. Мы максімальна стараемся шукаць шляхі паляпшэння сітуацыі з тэлефонамі. Тым больш, раней мы здавалі па 30 тысяч нумароў, а цяпер рэальна толькі па 10 тысяч.

**— Іван Браніслававіч, я разумею, што канцылярскі стыль тыповых адказаў з ГТС, накшталт «няма тэхнічнай магчымасці» або «дом не кабліраваны», не дае падстаў для паэтычнасці жанру, або ўзораў лагічнасці і дасціпнасці, ды ўсё ж вельмі падобны да адпіскі. Няўжо ў наш час да новага дома можа быць не падведзены кабель...**

— Зразумела. З аднаго боку, адказы гэтыя разлічаны, можа быць, больш на спецыялістаў, з другога, пісьмаў сёння ідзе столькі, што распісваць у кожным канкрэтным выпадку сітуацыю — вельмі складана, ды можа, і няма асаблівай патрэбы. Нават, калі і распішам чалавеку ўсе нашы беды, дзе, на якім участку не хапае чаго, мы ж усё роўна не дадзім яму тэлефон.

*НЕАБХОДНАЯ ДАВЕДКА. Тэхнічная магчымасць азначае, што ёсць абавязкова свабодны нумар на АТС, павінна быць пара правадоў у кабелі ад станцыі да дома абанента. І ён першы па чарзе на атрыманне тэлефона на станцыі. Адсутнасць адной з гэтых умоў не дае магчымасці ўстанавіць тэлефон.*

**— Мы ўсё гаварылі пра кватэрныя тэлефоны, але праблемай у многіх раёнах горада з'яўляюцца і тэлефоны-аўтаматы. То дрэнна працуюць, то наогул цяжка знайсці цэлы. Вядома, яшчэ раз трэба сказаць пра варварскія адносіны людзей да іх захавання, але ж неабходна шукаць нейкае выйсце з такога становішча!**

— У горадзе 6 тысяч тэлефонаў-аўтаматаў. У свой час Міністэрствам сувязі СССР быў распрацаваны нарматыў: 30 тэлефонаў-аўтаматаў на 10 тысяч жыхароў. Мы яго пераўзышлі гады чатыры назад. У Мінску недзе 36 на 10 тысяч. Тое, што варварскія адносіны да тэлефонаў-аўтаматаў у нас былі і ёсць — таксама наша рэчаіснасць. Асабліва сітуацыя абвастрылася ў 1991 годзе, калі пачала «развальвацца» народная гаспадарка, перасталі паступаць да нас камплектуючыя, запчасткі, а ў Беларусі іх не вырабляюць. І вось, калі ў рэспубліцы абвастрыўся дэфіцыт тэлефонаў, мікрафонаў, у нас па 100 тэлефонаў-аўтаматаў у дзень разбівалі. Каб паправіць такое бязвыхаднае становішча, мы ў мінулым годзе пачалі самі выпускаць трубкі. На гэта мы затрацілі каля 400 тысяч рублёў. Наладзілі вытворчасць іншых кампанентаў для аснашчэння тэлефонаў-аўтаматаў, для гэтага створаны спецыяльны ўчастак.

Калі казаць пра нейкае пагаршэнне работы тэлефонаў-аўтаматаў у цяперашні час, то звязана гэта і з іх пераабсталяваннем з прыёму 2-капеечных манет на 15-капеечныя. Уносяцца змены ў схему. Дарэчы, кожнае такое змяненне каштуе 12 рублёў, памножце на 6 тысяч і атрымаецца сума пад сто тысяч рублёў. Работа гэта ўжо завершана.

**— А як жа ўсё ж захоўваць тэлефоны-аўтаматы! Ведаю, што ў Казані ўвялі прэміраванне за тое, што зловіш хулігана. Можа, і ў Мінску паспрабаваць!**

— Не думаю. Тым больш, што каля кожнага з 6 тысяч аўтаматаў міліцыянера не паставіш. Трэба ўсё ж, на мой погляд, змагацца іншымі метадамі — павышаць культуру людзей. Вядома, гэта доўгая і складаная задача... Што датычыць пакаранняў, то законам прадугледжана адказнасць за разрабаванне тэлефона-аўтамата. Праўда, раней з-за малога кошту прыцягнуць да суда каго-небудзь было цяжка. Цяпер жа, калі аўтамат каштуе не 49, а 1500 рублёў, такая магчымасць паявілася.

**— Што ж, Іван Браніслававіч, дзякуй за размову. Думаю, што чытачы нашай газеты атрымалі ўяўленне і аб стане спраў у гэтай галіне, і атрымалі адказы на многія пытанні, якія іх сёння хвалююць. Поспехаў вам, усяго добрага і з прафесійным святам.**

*АПОШНЯЕ АДСТУПЛЕННЕ. Сёння мы неяк забыліся бачыць у людзях і вакол сябе харошае, добрае. Ды пры такім жыцці, пры нашым самаадчуванні яно і не кідаецца ў вочы. Наадварот, усюды вылязае бруд, хамства, чарнуха, злосць, абразлівасць. Але ж не магло ўсё прыстойнае, што было ў людзях, вось так у момант знікнуць. Знікнуць бясследна. Я далёкі ад таго, каб ідэалізаваць свайго субяседніка. Зрэшты, і яму гэта не патрэбна, бо ён ведае сабе цану. Але не можа не падкупіць яго адкрытасць, веданне справы, жаданне рабіць сваю работу кваліфікавана, на карысць людзям. Мы сустракаліся не адзін раз, і ў гэты матэрыял не змаглі ўвайсці ўсе закранутыя тэмы. Што ж, будзе магчымасць пры неабходнасці яшчэ раз сустрэцца на старонках газеты. Тым больш, што субяседнік ад гэтага не адмаўляецца.*

**Іван КАХНОВІЧ.**

